Opłatę pocztową uiszczono ryczałtem.

# Сялянская праўда

Выходзіць тры разы ў тыдзень.

Цана асобнага нумару 20 грош.

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: **Вільня, Віленская вул. 12, п. 6.** (Wileńska 12, m. 6).

Рэдакцыя адчынена **ад 12 да 2 г.** штодня апрача сьвяточных дзён. Адміністрацыя **ад 9 да 3 г.**

Падпіска на **адзін месяц** з дастаўкай да хаты **2 зл.** Для заграніцы ўдвая даражэй.

Няпрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.

Цана абвестак: перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грош. і на 4 стр. 15 грош., за радок пэтыту ў 1 шп.

№ 16. Вільня, Серада, 5-га лістапада 1924 г. Год I.

# Два напады на цягнікі.

**У панядзелак, 3-XI, між 7 і 8 гадз. раніцы ў 45 кілямэтрах ад Баранавіч, між станцыямі Даманаў і Лясная, 45 ўваружаных людзей напалі на пасажырскі цягнік з Варшавы Цягнік абрабаваны. Забіты паліцыянт, ранены афіцэр.**

**Між Дукштамі і Турмонтам (пад Дзьвінскам) у начы на 1-XI на рэйках была зроблена завала з шпал, каб разьбіць цягнік, які йшоў з Вільні. Гэты замах ня ўдаўся.**

**Падробнасьці на 4-ай страніцы.**

## Перадчасная радасьць.

Як мы і прадбачылі, перамога на англійскіх парляманцкіх выбарах аказалася на старане кансэрватыўнае партыі Абгаварываючы гэтае здарэньне, прэса самых рознародных кірункаў аднагалосна сцьвярджае, што галоўнай прычынай упадку Мак-Дональда была *не яго заграгічная палітыка* (як гэта даводзілі перад выбарамі польскія эндэкі!), а, выключна, *страх буржуазіі перад сацыялістычным урадам*, ад якога яна ждала ў хуткім часе рашучых сацыяльных рэформ у кірунку нацыяналізацыі буйнае прамысловасьці, а перад усім капальняў, чыгунак і т. п.

Што гэта так, сцьвярджае і тэлеграма A. W. з Лёндану, якая наказуе, што новы ўрад Балдвіна ня зьбіраецца рабіць паважнейшых перамен у заграгічнай палітыцы ўраду Мак-Дональда, і партфэль міністра замежных спраў возьме Чэмбэрлен, „*найменш склонны да абароны Вэрсальскага трактату*“.

Выпадкі ў Англіі ў сувязі з перамогай кансэрватыўнае партыі вельмі паважна адаб'юцца на далейшым разьвіцьці ўнутраных адносінаў і ў другіх дзяржавах Эўропы, якія — сьледам за Англіяй пасьля папярэдніх выбараў і перамогі Партыі Працы — узялі „курс улева“.

Польшча *на паперы* як-быццам таксама была павярнула ўлева, падыгрываючы ў Лізе Народаў у тон Мак-Дональду. Але гэта рабілася толькі дзеля віду: відаць, польскія рэакцыйныя палітыкі, якія запраўды кіруюць Польшчай пры ўсіх зьмяняючых адзін аднаго ўрадах, ня сулілі Мак-Дональду доўгага жыцьця, і затым-то ўсе „лібэральныя“ абяцаньні п. Скшыньскага і палёгкі ў законах для „нацыянальных меншасьцяў“ на дзеле зьвяліся да нуля....

Але гэтага мала польскім рэакцыянерам: захлёбываючыся ад радасьці, што ў Англіі „наша ўзяла!“, польская рэакцыя падыймае галаву і працягае лапу да *адкрытае* ўлады ў „найдэмакратычнейшай“ з дэмакратычных рэспублік.

„Gazeta Warszawska“, лейб-орган эндэцыі, заяўляе, што „вынікі англійскіх выбараў не астануцца бяз уплыву і на тое, што будзе дзеяцца ў Польшчы“. „Легенда аб тым,— піша далей газэта,—што „сьвет ідзе ўлева“, скончана“. А чаго можна ждаць у Польшчы з адкрытым ужо паваротам яе ўправа, найлепш растлумачыў ідэалёг польскага нацыяналізму, Раман Дмоўскі, у сваей прамове на эндэцкім зьезьдзе (гл. ў гэтым нумары)....

Але радасьць эндэкаў, што цяпер ужо *можна будзе распраўляцца з „сваімі“ меншасьцямі, як таго жадае „польская душа“*, не баючыся заграніцы,—пабудавана на фальшывым грунце. Бо-ж польскіх эндэкаў ні ў якім прыпадку нельга раўнаваць з англійскімі кансэрватарамі, каторыя ў шмат якіх справах мо' больш „левыя“, чым, нават, „патэнтаваныя“ прадстаўнікі польскае „лявіцы“ — Дашыньскія, Недзялковскія, Тугутты... Разьвязаньне ірляндзкага пытаньня дарогай *прызнаньня незалежнасьці паўстаўшае з аружжам у руках Ірляндыі* (толькі ў фэдэрацыйнай сувязі з Англійскім каралеўствам)—найлепшы доказ гэтага.

Есьць і яшчэ адна прычына, дзеля якое радасьць польскае рэакцыі — нядоўгавечная. Справа ў тым, што роля Партыі Працы, заняўшае ў Англіі месца разьбітае лібэральнае партыі, зусім ня скончана ў сувязі з няўдачай на *гэтых* выбарах.

Ужо той факт, што работніцкая партыя сабрала на сваіх кандыдатаў $5^{1}/_{2}$ міліёнаў галасоў (на 1.100.000 больш, чым на папярэдніх выбарах!), паказуе на значны ўзрост сіл работніцкіх арганізацыяў. Але ёсьць тут і нешта другое, аб чым польскія рэакцыянеры мо' і не падумалі, ды што можа іхнюю перадчасную радасьць абярнуць у горкія сьлёзы.

Справа ў тым, што поўнае, не падзельнае панаваньне кансэрватыўнае партыі, калі яна лішне шчыра будзе бараніць інтарэсы капіталу ў барацьбе яго з працоўнымі масамі, толькі прымусе гэтыя масы шукаць дарогі да ўлады ўжо ня толькі на парляманцкім грунце, але і на грунце чыста *рэвалюцыйным*, здабываючы сілай тое, чаго не ўдалося здабыць канстытуцыйнай дарогай. І чым даўжэй — пры сучасных адносінах палітычных сіл—будзе трываць у Англіі кансэрватыўны ўрад, тым балей будзе нарастаць у масах рэвалюцыйная энэргія, якая ў адзін пекны дзень можа неўспадзеўкі выбухнуць....

Англійскія кансэрватары з гэтым будуць прымушаны паважна лічыцца, *не надужываючы сваей улады* ў барацьбе працы з капіталам—на карысьць апошняга. І ў тым — ізноў розьніца паміж англійскай „правіцай“ і—польскай „хіенай“, якая, наадварот, толькі і чакае мамэнту, каб, дарваўшыся да ўлады, заспакоіць непамерныя апэтыты польскае буржуазіі коштам працоўных масаў—работнікаў і сялян.

А дзеля ўсяго гэтага Польшча, ідучы шляхам, намечаным Дмовскім у яго прамове,—Польшча, у якой паношыцца капіталіст, буйны прамысловец і пан-абшарнік,—ня знойдзе спогаду нават і ў самай кансэрватыўнай Англіі!

Радасьць польскае рэакцыі — запраўды перадчасная!

**За першы месяц ад уваходу ў жыцьцё „языковых“ законаў польская ўлада не здаволіла ніводнае просьбы сялян аб адкрыцьці беларускіх школ.**

**Адначасна ў радзе паветаў зачынены апошнія беларускія школы, уцалеўшыя ад разгрому беларускае асьветы яшчэ перад выданьнем новых законаў.**

## Нота С. С. Р. Р.

Роста наказуе, што Копп падаў польскаму прадстаўніку ў Маскве, Вышыньскаму, ноту пратэсту, у якой даводзе да ведама польскага ўраду ніжэйпісанае:

У начы з 1 на 2 кастрычніка с. г. цераз радавую граніцу каля Рубяжэвічаў перайшла на тэрыторыю ССРР банда, зложаная з 15—20 душ. Пасланая за ёй пагоня дагнала бандытаў. і ўзьнялася страляніна, у выніку якое быў ранены правадыр банды, Камінскі, які тут-жа застрэліў сябе. Злоўлены два бандыты; рэшта ўцякала ў кірунку польскае граніцы. Пры аглядзе трупа Камінскага знойдзена пасьведчаньне, выданае яму палітычнай паліцыяй нясьвіжскага старостваа. Дапрос ўзятых у палон учасьнікаў банды даказаў бязсумліўна, што напад на радаваю тэрыторыю зьяўляецца складовай часткай агульнага пляну польскіх уладаў, скіраванага да нарушэньня пагранічнага міру. Затрыманыя бандыты паказалі, што ў прыпадку ўдачы ім сулілі высокую заплату. Набор учасьнікаў рабіў агент 15 вокругу паліцыі Шумскі, агульныя інструкцыі атрыманы ад паручыка віленскага аддзелу генаральнага штабу, Славінскага. Задачай банды было: зруйнаваньне ваенных казармаў, звальненьне арыштаваных, зьніштажэньне і захват папераў асобнага аддзелу Г. П. У.

## „Новы народ“.

Польская ўлада так яшчэ нядаўна крычала, што ў Польшчы—асабліва на „Крэсах“ — жывуць выключна палякі. Беларусы, Украінцы—ўсё гэта выдумкі кучкі „ашалелае“, або „подкупленае“ бальшавікамі, інтэлігэнцыі. Не зважаючы, аднак, на ўсё гэта, той жа ўладзе прыйшлося сёлета прызнацца перад усім сьветам, што яна крышку хлусіла: гэта-б мо'й не хацела бачыць у сябе нікога, апрача палякоў, але нічога ня зробіш, трэба пагадзіцца з тым, што на „Крэсах“ жывуць, у пераважаючай большасьці, не палякі, а беларусы ды украінцы.

Прыйшлося аб гэтым ня толькі заявіць усяму сьвету, але, нават, выдаць спэцыяльныя ўставы, адносна гэтых агідных мешасьцяў.

Відаць, не здабра гэта было зроблена, калі, зрабіўшы, думаюць аб тым толькі, як бы ўзяць назад тое, што прыйшлося даць пад прымусам...

На Палесьсі адміністрацыйна—школьныя інстытуцыі атрымалі загад ад свае вышэйшае ўлады: **стварыць новы народ—паляшукоў**. Калі-б гэта ўдалося зрабіць, тады ўся маса беларусаў, якая жыве ў Палескім ваяводзтве, не магчыме нават на паперы карыстацца з „дабрадзейства“ языковых уставаў, дзеля чаго, згодна з выканаўчай інструкцяй ураду, трэба-ж даказаць, што ты беларусь ці украінец!

Творыцца гэты „новы народ“ надта проста. Пружанскі староста Ноэль, напрыклад, абсалютна ўсім беларусам у графе „нацыянальнасьць“ піша ў пашпартах: „**паляшук**“ або „**паляшучка**“. Пратэсты не памагаюць, бо тады зусім доваду асабістага не дадуць, ды яшчэ пасадзяць.

**Магіла.**

## „Wódz do narodu“.

(*Прамова Дмовскага на зьездзе эндэкаў*).

У „Dz. Wil.“ надрукавана цалком прамова эндэцкага правадыра п. Дмовскага, якую падаем у яе найбольш яркіх частках:

„Хачу вам сказаць, чым вы зьяўляецеся ў Польшчы“.

„Вы — армія, якая мае заваёўваць Польшчу, нясучы высока наш сьцяг і вясьці барацьбу з ворагамі“.

„За тое, што я вёў барацьбу за заваяваньне — Польшчы, мяне абкідалі гразьзю (галасы: „Жыды!“) — ня толькі жыды, але і жыдоўскія парабкі“.

„Мы павінны ўсьцяж вясьці барацьбу, бо **мы прадстаўляем сумленьне Польшчы**“.

„Вялікія ваяводы на запытаньне, хто перамагае ў барацьбе, заўсёды адказвалі: той, хто менш баіцца... Бо гэта, але ня лічба, вырашае аб перамозе“.

„Мы, як запраўдныя палякі, сыны гэтае зямлі, кахаючы яе, маемо заданьнем... — **прамаўляць так голасна**, каб нас усе чулі“...

„Але мы — наатварот — **сядзім ціха** тады, як розныя łotry робяць шум“...

„Трэба іх прымусіць да маўчаньня, — мы павінны ўцішыць гэты шум. **Вы павінны гаварыць галасьней, як łotry!..**“

„У нас людзі баяцца ня Польшчы, але łotrów.

„Урадовец баіцца ня Польшчы („эндэкаў? — бо мы — Польшча!“), але łotrów (можа: начальства, якое йшчэ ня чыста эндэцкае?).

„А трэба баяцца Польшчы, а ня łotrów...

„Як-жа-ж гэта зрабіць?

„Трэба высока падняць польскі (эндэцкі!) сьцяг і змусіць усіх, каб перад ім скідалі шапкі, а тым усім, якія-б хацелі яго пахіснуць, — усялякім łotrom — „даць у зубы“...

„Вы павінны ісьці з польскім сьцягам і крычаць: „Далой з дарогі — Польшча йдзе!..“

Мы павінны змусіць тых, што за нішто маюць Польшчу, што яе кахаць ня ўмеюць, **каб яе баяліся**.

„Вы — армія, якая сьмела павінна йсьці з сваім сьцягам“.

„Трэба і набіраць армію, дабіраючы перад усім маладых“ — бо старыя! заслужоныя дзеячы „маюць права трэбаваць, **каб маладыя йшлі першымі** ў вагонь... працы“...

„Хай-жа ўсіх агарне дух баявой арміі, адвагі, веры і волі, прымусіць злых (не эндэкаў!) да страху перад нашым сьцягам (эндэцкім) — сьцягам Польшчы“...

Вось і ўсё, літаральна ўсё, што сказаў на ўсепольскім зьезьдзе найвялікшай і найбольш польскай партыі ў Польшчы, — партыі, запраўды кіраваўшай палітыкай і адраджонай Польшчы — пры ўсіх бяз вынятку ўрадах, — сказаў яе найвышэйшы, прызнаны „wódz“ (правадыр), якога дагэтуль яшчэ Эўропа лічыць **найвыдатнейшым з палякоў, — запраўдным прадстаўніком польскай нацыянальнай ідэалогіі**...

Падлічым-жа ўвесь зьмест гэтай нацыянальнай „ідэалёгіі“ сучаснай Польшчы, — адзінай, якая запраўды перамагае ў яе жыцьці і палітыцы:

1) „мы, эндэкі, гэта — Польшча“, рэшта—„łotry“;

2) „эндэкі“ — сумленьне Польшчы; перамагаюць у барацьбе тыя, што менш баяцца; дык ідэалам сумленьня зьяўляецца такое, якое нічога не баіцца ў барацьбе.

3) У палітычнай барацьбе рашае ня „лічба“ (—ня большасьць у краю, не дэмакратычныя выбары...), але „сьмеласьць“ і... „сумленьне“, якое не баіцца нічога...

4) Кахаць народ і край, гэта значыць — „крычаць так голасна, каб усе на сьвеце чулі“, — „крычаць галасьней за „лотраў“.

5) „Заданьне“ барацьбы і працы — ў тым, каб „біць у зубы лотраў“ (ня эндэкаў, а перад усім, зразумела-ж — **меншасьці**!), заглушыць сваім „галасьнейшым“ крыкам „hałas łotrów“ (значыць, усіх тых, а пераважна меншасьці на „крэсах“, каго эндэкі — ў ва ўсіх сваіх урадавых і няўрадавых экспазытурах — “б'юць у зубы“ — садзяць у турмы, катуюць і гэтак далей!).

6) Як вывад з усяго вышэйшага, — стварэньне з Польшчы такога ідэальнага „паньства“, якога-б — няхай сабе ніхто „ня ўмеў кахаць, — ды кожны „меў-бы за нішто, — але — **ўсе б баяліся**...

Вось усе гэтыя „ідэалы“ стары, заслужоны, „маючы за сабой 30 гадоў барацьбы“ „wódz narodowej Polski“ — лічыць перад усім патрэбным зашчапляць у душы польскай моладзі, пасылаючы яе „першай у вагонь — гэткае працы“...

Цікавая дэталь:

Нават лейб-орган эндэцкай партыі „Gaz. Warsz.“ не надрукавала цалком прамову свайго „правадыра“, выкінуўшы з яе амаль не найбольш „моцныя“ мейсцы...

**В.**

# З Сойму.

### Дыскусія над экспозэ Грабскага і Скшыньскага.

Першым адчыніў дыскусію над урадовымі экспозэ вельмі рэзкай крытыкай правадыр эндэцкага клюбу, п. Гломбіньскі.

### Прамова п. Гломбіньскага.

Аратар закідаў бюджэту Грабскага, што фармальна ён ня можа лічыцца бюджэтам, бо ў ім падапы толькі агульныя лічбы... Закідаў, што лішне павялічаны выдаткі—на 25% больш, як у папярэднім гаду. Закідаў нерэальнасьць спадзяваных даходаў. Аратар зьбіваў довады мін. фін. Грабскага аб тым, як мала—ў параўнаньні з іншымі заходнімі дзяржавамі—падаткаў выпадае на „адну галаву ў Польшчы: трэба-ж прыняць пад увагу і агульную ўбогасьць насяленьня ў Польшчы і ня змушаць яго, каб яно заправды „галавой дакладала“, чаго не хапае ў яго кішані...

Крызіс у Польшчы ўзмацоўваецца, безрабоціца ня спыняецца... Крэдыт—такі дарагі, што яго амаль што няма... Таргоаы баланс Польшчы пагаршаецца.

Насяленьне ня мае веры да сучасных касаў ашчаднасьці, у якіх перад вайной яно складала 7—8 мільярдаў... Каб здабыць гэную веру да ўраду, трэба „ўзмоцніць у-ва ўсіх галінах жыцьця законнасьць (praworządność) у дзяржаве, якую часта нарушае сам урад, аслабляючы гэтую веру. Вінаваты ў гэтым і Сойм.

Пераходзячы да заграпічных спраў, п. Гломбіньскі сьмяецца з таго „ідэальнага міралюбства“, якое дэманстраваў у Лізе мін. Скшыньскі. Ніякія агульныя „гаранты“ не забясьпечаць ад вайны і ня змусяць ворагаў Польшчы да... помачы ёй у выпадку вайны! Бо-ж якраз пасьля Вэрсальскага Трактату, які абавязваў (10) усіх сяброў Лігі памагаць адзін аднаму ў часе нападу, бальшавікі напалі на Польшчу, а ўсе гэтыя сябры пакінулі яе, дый некаторыя яшчэ і памагалі бальшавікам...

Закідае Скшыньскаму, што ён ізноў выступаў у Лізе, як „кліент Лігі“, а ня як яе сябра, рэфэруючы ёй гэткія „чыста ўнутраныя справы“ Польшчы, як украінскі унівэрсытэт, — дык яшчэ і абяцаў залажыць яго ў „чыста-польскім“ Львове.

За ўсё гэтае адказвае ўвесь урад Грабскага, які наагул выяўляе нейкую баязьлівасьць бараніць польскасьць—ці на заграпічным полі, ці на сваіх уласных „Крэсах“...

З рэформы адміністрацыі на „Крэсах“ дзеля таго нічога ня выйдзе: ад генералаў спадзявацца вялікшых талентаў і разуму, чым ад „цывіляў“, няма ні якай падставы.

Урад, наагул, слабы, ідзе па лініі найменшага праціўланьня.

У канцы аратар заяўляе, што за такі ўрад, каторы, апрача ўсяго іншага, дазваляе сабе „пакарацца чужым дзяржавам ці іншым няпольскім элемэнтам наагул“, — яго партыя ня можа браць адказнасьці, бо гэта — „пагражае будучыне Польшчы“... (як ведама якраз гэтымі апошнімі закідамі прэм. Грабскі гэтак пакрыўдзіўся!).

### Прамова п. Жулавскага (П. П. С.).

Вельмі рэзкую і абаснованую крытыку ўраду Грабскага даў пасол Жулавскі (PPS)—**распусьціць Сойм!**

Экспозэ Грабскага—не датыкаецца зусім найважнейшых палітычных пытаньняў, і ў гэтым вінаваты сам Сойм, бо ён сам сябе палітычна забіў, адмовіўшыся ад сваіх найважнейшых правоў — **на карысьць ураду** (вынятковыя паўнамоцтвы п. Прэзыдэнта). Сойм гэты павінен быў пачаць з перадачы сваіх паўнамоцтваў ня ўраду, але народу, —г. ёсьць—распусьціць сябе,—каб народ выбраў новы Сойм. Трэба стварыць Сойм, які быў-бы здольны да працы. (Галасы: — Слушна, слушна!).

#### Крызіс у Польшчы.

Павуючы ў Польшчы гаспадарчы крызіс урад хоча перамагчы толькі коштам крыві, працы і жыцьця работнікаў, ня прымаючы ніякіх іншых мераў барацьбы, якімі перамагаюць крызіс у Чэхіі ці ў Нямеччыне.

Польскі ўрад дазваляе прамыслоўцам, якія ня ўмеюць і ня хочуць тэхнічнымі паляпшэньнямі канкураваць на міжнародавым рынку, змагацца з крызісам і канкураваць з заграніцай толькі **таннасьцяй работніцкай працы**...

Гутарка аб тым, быццам крызіс у Польшчы выклікаяы „санацый скарбу“ — абсурд! Прычына крызісу—дзікая, рабунковая гаспадарка ў працягу гэтых 5 гадоў. Пакуль прамыслоўцы зьядалі скарб крэдытамі коштам „інфляцыі“ і руйнаваньня працоўных масаў, прамысловасьць „працьвітала“; але, як толькі ўрад сказаў: „годзі!“, дык і пачаўся крызіс... Гэтыя п'яўкі не зрабілі нічога за ўсе гэтыя ўрадовыя крэдыты, але папросту **праелі** іх...

Аратар сьцьвярджае страшэнныя падатковыя надужыцьці і ашуківаньне скарбу, якія робяцца вугальнымі прамыслоўцамі на Сьлёнску, а ўрад усё гэта цярпеў і церпіць!..

Польскі работнік, дзякуючы крызісу, працуе толькі 41 гадзіну ў тыдзень замест 46, а польскі ўрад згаджаецца з дамаганьнем прамыслоўцаў — **павялічыць дзень працы**! Ці-ж ня ясна, што справа йдзе толькі аб памяншаньні платы работнікам?

Прэм. Грабскі даў слова з гэтай трыбуны, што 8-гадзінны дзень будзе ў Польшчы захаваны; а пасьля, увёўшы вынятак для Сьлёнску, заявіў тут, што гэта—толькі на 3 месяцы.

Далей пасол рэзка крытыкуе міністра працы Даровскага і дамагаецца яго адстаўкі.

#### Платы работнікам і пэнсыі дырэктарам.

Сярэдні заробак работніка ў Польшчы — 75 злотых у месяц. Сцьверджана, што дарагоўля за апошні час узрасла на 14%, а плата работнікам— у вугальнай прамысловасьці — ўжо двойчы абніжана па 5%, прычым зьменшана лічба работнікаў з 212 тысячаў да 160 тысяч. Дык вось дзеля чаго патрэбна на Сьлёнску павялічэньне гадзінаў працы! А да таго ўрад яшчэ зьняў і падатак з вугальля!.. Тымчасам дырэктар прадпрыемства аднаго з таварыстваў бярэ ўдвая гэтулькі, як Прэзыдэнт Рэспублікі!

Работнікаў і ўрадоўцаў, звальняючы са службы, папросту выкідаюць на вуліцу голых; а вось прамыслоўцы, звальняючы сваіх „дырэктароў“, з прычыны „рэдукцыі“, даюць на „адправу“ па 15.000 даляраў... І польскі скарб **памагае** гэтым „бедным“ прамыслоўцам—коштам народных грошы і работніцкае працы...

#### Дарагоўля хлеба.

Агульная вартасьць сёлетняга збору збожжа больш, як у леташнім годзе, на 280 мільёнаў злот. Але селянін ад гэтага ня выігрывае. — Бо калі летась нават 4 маргавы гаспадар мог нешта прадаць, дык сёлета ня можа гэтага зрабіць і маючы 10—20 маргоў! (воплескі на лавах людоўцаў і „Wyzwolenia“).

Толькі абшарнікі заўсёды зарабляюць—як на ўраджаю, таксама і на неўраджаю. Але ўрад, сьцягнуўшы гвалтам з найбяднейшых сялян усе падаткі, цяпер абяцуе „палёгкі і дапамогі сялянам“, — з якіх скарыстаюць толькі багацейшыя, якія не заплацілі дагэтуль падаткаў.

#### Паліцыя мін. Гюбнэра.

Паліцыя мін. Гюбнэра разгулялася ўва-ўсю!.. За часоў аўстрыйскіх ня было ў Галіччыне гэткіх дзікіх рэпрэсіяў, як цяпер!

#### „Справядлівасьць“ мін. Выгановскага.

Мін. Выгановскі падкопывае справядлівасьць у Польшчы, ды зьніштажае гэтым Польскую Дзяржаву!

#### Асьвета.

Ня горшы і мін. Міклашэвскі! Ня гледзячы на выразную пастанову Канстытуцыі аб **бясплатнасьці** навукі ў Польшчы, мін. асьветы сказаў дэлегацыі студэнтаў, прасіўшай аб **зьмяншэньні** платы за навуку, што, калі-б ад яго залежала, дык ён бы яшчэ павялічыў плату!..

У школах пануюць клерыкалы... За ўсенародныя грошы навука ў школах ідзе ў духу рэакцыйных партыяў...

#### Палітыка проці „меншасьцяў“.

Законы аб мовах на „Крэсах“ скасаваны „інструкцыяй ураду“—аб іх выкананьні.

„Крэсы“ выглядаюць цяпер (?), як акупаваны край (а калі яны выглядалі пад Польшчай інакш?! (*Рэд.*). Апрача біцьця паліцыяй, там яшчэ робяцца і нячуваныя гвалты і расправы абшарнікаў. Мы, сацыялісты, пададзём праект аб аўтаноміі для „Крэсаў“ (з лаваў „меншасьцяў“ крыкі: абяцанка-цацанка!).

#### Вывады

Пасьля абароны міравой палітыкі міністра Скшыньскага, дэп. Кулавскі дамагаецца **роспуску Сойму і адстаўкі** міністраў працы, асьветы, унутр. спраў і справядлівасьці, да якіх PPS мае найглыбейшае недаверые.

# Палітычны агляд.

## У Польшчы.

### Ніякай пазыкі.

Афіцыяльна пярэчыцца пададай польскімі газэтамі вестцы, быццам „на запросіны англійскіх і амэрыканскіх капіталістаў (!) выяжджае ў гэтых днях у Нью-Йорк дэлегацыя ад міністэрства скарбу дзеля перагавораў у справе пазыкі для Польшчы“.

Гэтая вестка — зусім беспадстаўная.

### Адстаўка міністра Даровскага.

У выніку рэзкай крытыкі (пераважна з боку P. P. S.) дзеяльнасьці міністра працы п. Даровскага, у гэтых днях спадзяюцца яго адстаўкі.

## Заграніцай.

### Арышты польскай арганізацыі ў Кіеве.

„Роста“ апавяшчае, што Г. П. У. раскрыла ў Кіеве шырокую шпіёнскую арганізацыю, створаную кіраўнікамі і супрацоўнікамі польскай опцыйнай камісіі.

### Новыя дакумэнты.

„Руль“ наказуе, што пецярбурскі „Госиздат“ абяцуе ў бліжэйшым часе апублікаваць сэнсацыйныя матар'ялы з апошніх гадоў панаваньня Раманавых.

### Заграпічныя архіерэі проці „Імпэратара“ Кірыла I.

Сабраўшыся на Сабор у Карловіцах, заграпічныя праваслаўныя япіскапы (эмігранты) паміж іншым пастанавілі — ня прызнаць быўш. вялікага князя Кірыла... „імпэратарам Усерасейскім“, якім той сам сябе абвясьціў...

### Матка Мікалая II—проці Кірыла.

У „Руле“ надрукавана вельмі цікавае пісьмо маткі Мікалая II, Марыі Өёдараўны, якая таксама моцна асуджае Кірыла Ул. за абвешчаньне сябе самога „імпэратарам“, кажучы, што гэта — справа „Расейскіх аснаўных законаў, праваслаўнай царквы і расейскага народу“...

„У мяне, — піша яна далей, — няма точных вестак аб лёсе маіх каханых сыноў і ўнука... „Няма яшчэ чалавека, які-б мог затушыць у-ва мне апошнюю іскру надзеі, што яны жывуць“...

Мы, прыпадкам, ужо і раней чулі, што тая самая б. царыца ўпорна верыць, што ўся царская сям'я—жыва і жыве... ў Японіі. Быццам да аднэй віленскай б. „саноўніцы“ яна пісала аб гэтым і прыслала нават і фатаграфію ўсей сям'і, зьнятую у апошнія часы... (?)

### Нямеччына, ССРР, Францыя і Ліга Народаў.

З прычыны прызнаньня Францыяй ССРР, нямецкі пасол у Парыжу сьпешна выкліканы ў Бэрлін, дзе адбыліся нарады ў сувязі з новай палітычнай сітуацыяй.

На нарадах разглядалася і пытаньне аб уваходзе Нямеччыны ў Лігу Народаў.

Большасьць, быццам, стаіць за тое, каб варункам уваходу катэгарычна паставіць скасаваньне арт. 16 Статуту Лігі.

# Рэзультаты выбарау у Англіі.

Уначы 31/X высьветліліся аканчальныя рэзультаты выбараў у Англійскі Сойм.

Як мы і прадбачылі, перамаглі кансэрватары, якія атрымалі аж 415 мейсц, Партыя Працы—152, лібэралы—44.

Раўнуючы да апошніх выбараў, кансэрватары здабылі 156 новых мандатаў, работнікі страцілі 41 мейсца, лібэралы — аж дзьве траціны даўнейшых дэпутацкіх месц.

З гэтага відаць, якое вялізарнае перамогі дайшлі кансэрватары на гэтых выбарах.

Маючы больш, як $^2/_3$, ўсяго парляманту (аж на **107** паслоў больш, чым патрэбна дзеля большасьці!), кансэрватары могуць не баяцца ніякай апазіцыі і правадзіць сваю праграму бяз ніякіх перашкодаў.

Трэба, аднак-жа трохі глыбей паўглядацца ў гэтае зьявішча, каб не паддацца фальшываму пэсымізму.

Гэткае рашучае паражэньне спаткала толькі лібэралаў, бо іх партыя страціла як на ліку паслоў, таксама і **на лічбе выбаршчыкаў**: апошняя паменшала на 1 мільён, 350 тысяч!.. Можна сказаць, што партыя лібэралаў пацярпела разгром, ад якога ўжо не ачуняе ніколі і можа лічыцца зусім зыйшоўшай з палітычнай сцэны.—Яе галасы і яе паслоў зьела партыя кансэрватараў. Баючыся сацыялістаў, лібэралы-выбаршчыкі пераходзілі ў кансэрватыўны лагер.

Але зусім іншая сутнасьць зьявішча ў паражэньні Партыі Працы. Страціўшы — **з прычыны змовы лібэралаў з кансэрватарамі** і іх спрытнай баявой тактыкі—па лічбе паслоў, маладая, з вялікай будучынай работніцкая партыя не магла, зразумела, страціць на лічбе сваіх выбаршчыкаў! —І запраўды: за кандыдатаў Партыі Працы пададзена на 1.100.000 галасоў больш, як на папярэдніх выбарах!

Фармальна-палітычны вынік англійскіх выбараў—у тым, што, са зьліквідаваньнем лібэралаў англійскі парлямантарызм вярнуўся да сваей адвечнай выпрабаванай **сыстэмы 2-х партыяў**: урадавай і апазіцыйнай.

Вялізарную важнасьць прыгэтым мае факт, што **работнікі занялі ў гэтай „сыстэме партыяў“ месца лібэралаў**, якіх нявыразны палітычны і сацыяльны твар пазбавіў іх—у абастрыўшайся барацьбе клясаў—зьместу і сэнсу існаваньня. Паражэньне на выбарах самага галоўнага лідэра лібэралаў, Асквіта, сымвалічна прадстаўляе хаўтуры партыі, адыграўшай такую вялізарную ролю ў гісторыі Англіі.

Беспасярэднім рэзультатам перамогі кансэрватараў будзе стварэньне габінэту іх партыяй.

Мак-Дональд, як і абяцаў перад выбарамі, зрокся ўлады безадкладна, не чакаючы, пакуль зьбярэцца Сойм.

Прэм'ерам новага ўраду будзе той-жа Бальвін, якога скінулі перадапошнія выбары.

Міністрам загр. спраў мае быць вядомы дзеяч Чэмбэрлен.

---

Паводле гэтага артыкулу, Нямеччына была-б прымушана—ў прыпадку нападу Расеі на Польшчу—памагаць Польшчы.

### Склад аружжа ў Бэрліне.

Бэрлінская паліцыя выкрыла камуністычны склад аружжа — з бомбамі. Паліцыя ўстанавіла, што камуністы маюць фабрыку для фабрыкаваньня бомбаў. (?)

### Арышт 5-ага камуністычнага пасла.

У Бэрліне арыштаваны камуністычны пасол Токэрт. Гэта—ўжо пяты пасол-камуніст, арыштаваны ад часу роспуску Рэйхстагу.

### Становішча Эрыо—ня пэўнае.

„Warzawianka“ падае, быццам у сувязі з англійскімі выбарамі і рухам сярод францускіх урадоўцаў, якім урад Эрыо пагражае рэдукцыяй, становішча францускага прэм'ера зрабілася нямоцным.

### Сыны праваліліся.

Канкураваўшыя на выбарах з бацькамі сыны выдатнейшых англійскіх палітыкаў — Бальдвіна, Мак-Дональда, Л.-Джорджа і Гэндэрсона — ўсе праваліліся...

Цікава, што сын правадыра кансэрватыўнай партыі, будучага прэм'ера Балдвіна, выступаў, як кандыдат работніцкай партыі.

### Англа-мэксыканскі канфлікт.

У сувязі з канфліктам паміж мэксыканскім урадам і Англіяй і гвалтамі над англійскім пасольствам у Мэксыцы, у Лёндане зачынена мэксыканскае пасольства.

Ці гэта азначае вайну?!

### Вайна паміж арабамі

Нават пасьля адрачэньня эміра (караля) Гусэйна ад трону ў Тэджасе, вайна ў Арабіі ня спынілася. Вагабіты цяпер заяўляюць, што міру ня будзе, пакуль у Гэджасе сядзіць эмірам сын Гусэйна—Алі. Дык вайна пачынаецца ізноў. Алі сабраў у Джэддзе значнае войска і гатуецца да энэргічнага адпору вагабітам.

# Прэзыдэнцкая выбарная кампанія у Амэрыцы.

Падыходзе лістапад, у якім адбудзецца першая стадыя выбараў амэрыканскага прэзыдэнта.

Як ведама, прэзыдэнт у Амэрыцы выбіраецца зусім інакшым парадкам, чым у Польшчы. У Польшчы Прэзыдэнта, як і ў Францыі, выбіраюць абедзьве Палаты Парляманту,—Сойм і Сэнат, злучаныя дзеля гэтага ў адно—Нацыянальнае Сабраньне.—У Амэрыцы прэзыдэнт выбіраецца **асобным** галасаваньнем не дэпутатаў, але ўсяго народу.

Дзеля гэтага прэзыдэнт у Амэрыцы зьяўляецца зусім незалежным ад парляманту, чаго ня можна сказаць, напрыклад, аб Францыі, дзе толькі што мы бачылі, як пасьля апошніх выбараў, даўшых левую большасьць парляманту, апошні здалеў скінуць правага прэзыдэнта і паставіць новага, ня гледзячы на тое, што старому яшчэ зусім ня скончыўся яго срок, ён вельмі не хацеў выхадзіць у адстаўку...

Але амэрыканскі прэзыдэнт выбіраецца ня проста народам, а выбары яго, як кажуць, двуступнёвыя: сьпярша па ўсіх штатах, з якіх складаецца Амэрыканская Фэдэрацыя, народ выбірае „выбаршчыкаў“ з кожнага штату па некалькі, прапарцыянальна да лічбы яго насяленьня. Гэта і адбудзецца ў лістападзе. А ўжо пасьля—ў другі панядзелак студня 1925 г. гэтыя выбаршчыкі зьбіраюцца ў сталіцах сваіх штатаў і падаюць галасы за таго ці іншага, ужо афіцыяльна абвешчанага партыямі, кандыдата ў прэзыдэнта.

Але можна лёгка зразумець, што ўжо ў лістападзе, пасьля выбараў выбаршчыкаў, у значнай меры можна прадбачыць хто будзе выбраны прэзыдэнтам, бо партыйная прыналежнасьць выбаршчыкаў блізу заўсёды вядома, і партыі хутка падлічаць галасы сваіх сяброў, якім выпадзе на долю выбіраць прэзыдэнта.

Як ведама, тры канкуруючыя партыі ўжо вызначылі сваіх кандыдатаў.

Пануючая цяпер—праз свайго прэзыдэнта — рэспубліканская партыя выставіла кандыдатам Куліджа, сучаснага прэзыдэнта (тачней—віцэ-прэзыдэнта, бо выбраны прэзыдэнтам Гардынг памёр). Другая з дзьвюх старых вялікіх партыяў—дэмакратычная—выстаўляе Дэвіса. Трэцяя новая партыя—радыкальная, якую падтрымліваюць на выбарах работнікі, дробныя фармэры і інтэлігенцыя,—выставілі свайго асобнага кандыдата—Ля-Фолетта. Урэшце, 15.000 работнікаў камуністаў выставілі чацьвертага кандыдата — без надзеі на пасьпех выбару, але дзеля агітацыі і прапаганды камуністычных ідэяў.

Выбары прэзыдэнта маюць вялізарную вагу ў Амэрыцы,—падобную да выбараў Сойму ў парлямантарных дзяржавах, бо прэзыдэнт сам складае ўрад, які таксама зьяўляецца адказным перад ім, як напрыклад у Францыі перад Парлямантам. Гэткім чынам—выйграўшая выбары партыя **праз свайго прэзыдэнта** атрымлівае ўладу, а пераможаныя робяцца апазіцыяй.

Усяго выбаршчык ў другой ступені, выбраных усім народам дзеля выбару прэзыдэнта,—павінна быць 531; дык выбраным лічыцца той кандыдат, які атрымае ня менш 266 галасоў. Але-ж лёгка зразумець, што гэткае простае вырашэньне выбарнай задачы абсалютнай большасьцю заўсёды магчыма і пэўна толькі пры сыстэме 2 канкуруючых партыяў і 2 кандыдатаў, як гэта фактычна дагэтуль было і як гэта і мела на ўвазе канстытуцыя. Тымчасам 3-ці кандыдат зусім зьмяняе ўсю справу.

Лёгка зразумець, што, калі, напрыклад, 3-ці кандыдат—Ля-фолетт—пераможа **ў некалькіх** штатах, дык абодва другія кандыдаты старых магутных партый,—маючыя **амаль ня роўныя сілы ў краі**, не здолеюць —ужо папросту арытмэтычна — атрымаць вымаганае дзеля выбару прэзыдэнта абсалютнае большасьці. Трэці канкурэнт—у асобе кандыдата больш радыкальнай групіроўкі працоўных элемэнтаў краю і тут, як і ў Англіі, нарушыў традыцыйную, добра збалянсаваную і выпрабаваную гістарычна „сыстэму партыяў“ і выклікае вялікую ломку ў палітычна-сацыяльным жыцьці вялікай дэмакратыі.

Што-ж будзе тады, калі ні адзін кандыдат не атрымае абсалютнай большасьці?

Пасьля выбараў у студню 1925 г., 11 лютага таго-ж году на супольным кангрэсе абедзьвюх палат парляманту адбудзецца аблічэньне галасоў, паданых выбаршчыкамі ў сталіцах штатаў. Калі ніводзін з кандыдатаў не атрымае гэтай большасьці, тады палата паслоў (Сойм) выбярае з трох кандыдатаў **прэзыдэнта**, прычым не паслы асабіста, але паслы кожнага штату, як адзінкі, маюць адзін голас.—**Выбіраюць прэзыдэнта штатаў—выбаршчыкі, прадстаўленыя ў Сойме**. Гэткім-жа парадкам у другой палаце Парляманту—ў Сэнаце — выбіраецца віцэ-прэзыдэнт спаміж 2 кандыдатаў, атрымаўшых на выбарах у штатах найбольшы лік галасоў.

Але магчыма,—(а цяпер якраз гэтая небясьпека і пагражае), што ў Сойме ніводзін кандыдат не зьбярэ належнай большасьці. Тады, паводле канстытуцыі, прэзыдэнтам аўтаматычна робіцца выбраны Сэнатам віцэ-прэзыдэнт.

Гэткім чынам, у прэзыдэнты лёгка можа папасьці ня той, каго партыі выбіралі ў прэзыдэнты, але—адзін з тых, каго яны ўсе намячалі толькі ў віцэ-прэзыдэнты.

Як ведама, сучасны прэзыдэнт Кулідж прэзыдэнтаваў таксама заместа памершага Гардынга.

З гэтага сымвалічнага сьпляценьня рэчаў відаць, што і ў амэрыканскай, тэхнічна быццам дасканалай палітычнай машыне нешта ўжо псуецца, нешта ўжо не адпавядае новаму духу часу, які настае ў буржуазна-зраўнаважанай рэспубліцы пакуль-што ў постаці **радыкальнага** сэнатара Ля-Фолетта, якога толькі ўмоўна падтрымлівае работніцкая армія Злучаных Штатаў.

Але справа выбараў прэзыдэнта нават шляхам яго „эрзацаваньня“ ў Сэнаце можа пасунуцца яшчэ і далей—у бок аканчальнае бязвыхаднасьці, — можа зайсьці ў такі тупік, якога не прадбачыла амэрыканская канстытуцыя: можа не знайсьціся патрэбнай большасьці нават у сэнаце!..

На 96 сэнатараў рэспубліканцы **мелі** 51, дэмакраты—43, лявіца—2; але з ліку 51 рэспубліканцаў—4 сэнатары, якраз з Ля-Фолеттам на чале, вышлі з фракцыі. Дык большасьці ўжо фактычна, ня мае і ў сэнаце ніводная з партыяў...

І вось,—што рабіць тады, аб гэтым ідзе вельмі цікаўная спрэчка паміж амэрыканскімі юрыстамі.

Як выйдзе амэрыканскі народ з гэтай усей сітуацыі, будзем сьведкамі ў хуткім часе... **С.**

---

# ХРОНІКА.

**Дамаганьне выдачы беларускіх паслоў.** У Сойм прысланы дамаганьні выдачы Судам аж пяцёх беларускіх паслоў: Рагулю, Кахановіча, Валошына і Аўсяніка.

П. Грабскі, Старшыня Міністраў, прыслаў да Маршалка Сойму пісьмо, у якім просіць Сойм як найхутчэй прыступіць да разгляду спраў выдачы ўспомненых паслоў.

Ужо з гэтага відаць, што ўрад прыступае яшчэ больш да вострай барацьбы з беларусамі.

**У абароне чесьці пасла Барана.** Падчас суду ў Беластоку над беларусамі „Dz. Wil.“ ў Вільні, як гэта ён робіць заўсёды, пісаў аб паслу Баране розныя выдуманыя брыдоты. Пасол Баран за гэта рэд. гэнай газэты падаў у суд, які ўжо хутка адбудзецца ў Вільні. Па даручэньні пасла Барана ад яго імяні на судзе выступіць адв. Врублеўскі.

**Вынік збору на Прытулак.** 28 кастрычніка адбыўся скарбоначны сбор на карысьць Беларускага прытулку К-ту Помачы пацярпеўшым ад вайны. Аканчальная сума чыстага даходу перавышае 1250 злотых.

Усе зборшчыкі аднагалосна адзначаюць, што найбольш ахвяроўвалі жыды. Ня было выпадку, каб жыд, да якога зьвярнуліся, адмовіў ахвяры; наадварот: самі даганялі зборшчыкаў, каб укінуць пасільную лепту.

Польскія ксяндзы, відаць, з лагеру Обста сьпярша выймалі грошы, але, даведаўшыся, што гэта на беларускіх дзяцей, плявалі ды заяўлялі, што „на тых хамаў“ яны не даюць...

**Падзяка.** Таварыства Беларускай Школы ў Радашкавічах складае праз нашую газэту шчырую падзяку п. п. сэнатарам, паслом і А. Більдзюкевічу, якія зрабілі ахвяру на карысьць Беларускай Гімназіі ў Радашкавічах:

1) А. Більдзюкевіч—10 зл., 2) сэнатар А. Уласаў—20 зл., 3) пасол Валошын—10 зл., 4) сэнатар В. Багдановіч—5 зл., 5) пасол Рак-Міхайлоўскі—10 зл., 6) сэнатар А. Карніцкая—10 зл., 7) пасол Земеньскі—10 зл., 8) пасол Галавач—5 зл., 9) пасол Пашук—5 зл., 10) пасол доктар Выгодзкі—10 зл., 11) пасол Б. Тарашкевіч—5 зл., 12) пасол Вэндзягольскі—10 зл., 13) пасол Ланцуцкі—10 зл., 14) пасол Квапінскі—5 зл., 15) пасол Стучынскі — 5 зл., 16) сэнатар Пастэрнак—5 зл. Усяго 135 зл.

**Справа адбудовы.** На інтэрпэляцыю беларускіх паслоў у справе адбудовы, вось што адказвае міністэрства публічных работ:

У Віленскім ваяводзтве зьнішчаных будынкаў ёсьць 80.808; адбудавана 43.498, асталося адбудаваць 37.310.

У Навагрудзкім ваяв. зруйнавана 145.914 будынкаў; адбудавана 83.845, асталося 62.089.

У Беластоцкім в. зруйнаваных будынкаў 207.235; адбудавана 112.748, асталося 94.487.

У Палескім ваяв. зьнішчана буд. 194.629; адбудавана 63.982, асталося 103.647.

Разам на нашых землях адбудавана 304.073 будынкаў, а ішчэ больш, як гэтулькі, астаецца адбудаваць зьнішчаных сялібаў.

З гэтага бачым, як польскі ўрад мала аб нас руціцца і мала клапоціцца аб тым, каб дагэтуль жывучых у зямлянках беларусаў пасадзіць хоць у большменш прызваітыя хаты.

**Аб дапамозе сем'ям асоб, загінуўшых у вайне.** Згодна з новым законам ад 1 жніўня 1924 г., апублікаваным Міністэрствам Вайсковых Спраў (Dzien. Ustaw Nr 74 — 1924 r., poz. 739), сем'ям асоб, загінуўшых у часе вайны будуць выдавацца дапамогі. Загінуўшымі будуць прызнавацца тыя асобы, якія, напрыклад, служылі ў войску расейскім ад жніўня 1914 г. да 1 сакавіка 1918 г. і загінулі на тэрыторыі, і ў часе вайны ў зьвязку з службай іх у войску. Дзеля прызнаньня за загінуўшага вымагаецца, каб асоба гэта была грамадзянінам Польшчы. Дапамогі могуць атрымаць: 1) жонка загінуўшага, 2) дзеці шлюбныя, 3) дзеці няшлюбныя, 4) дзеці ўсыноўленыя і 5) яго бацькі. Просьба аб прызнаньні загінуўшым падаецца да P.K.U. (Powiatowa Komenda Uzupełnień) таго вокругу, у якім загінуўшы пражываў заўсёды, ці ў апошні час, або пражывае асоба, застаўшаяся па загінуўшым. Да просьбы гэтае трэба далучыць гэткія дакумэнты: 1) калі просіць жонка — мэтрыку шлюбу, 2) калі дзеці — мэтрыкі нараджэньня, 3) дзеці ўсыноўлёныя — акт усынаўленьня і 4) бацькі — мэтрыку нараджэньня загінуўшага. Апрача гэтага трэба прадставіць пасьведчаньне аб тым, што загінуўшы пражываў у Польшчы, або аб тым, што пражывае ў Польшчы асоба якая просіць.

Дык, вот-жа зацікаўленыя сем'і асоб, загінуўшых на вайне, могуць зварочвацца да адпаведных уладаў, і іх просьбы павінны быць споўнены.

**Новыя раёны ў Віленшчыне.** У віленскім ваяводзтве, апрача істнуючых, маюць быць утвораны яшчэ новыя адміністрацыйныя раёны. Рэзыдэнцыямі новаўтвораных начальнікаў раёнаў маюць быць—Трокі і Падбярэзьзе—ў Віленска-Троцкім павеце, Сьвір і Ігналін—у Сьвянц. пав., Дукшты—ў Брасл. пав., Друя, Дзісна і Шаркаўшчына—Дзісьн. пав., Докшыцы і Мядзёл—Дунілав. пав., Даўгінаў і Радашковічы — ў Вілейск. пав., і Смаргоні ці Беліца — ў Ашмянск. пав.,

Мэта гэтай „ашчаднасьці"—„ўзмацненьне стану бясьпечнасьці". Няведама толькі для каго!.. Бо-ж нядаўна „дэлегат" „Dz. Wil.", п. Ковнацкі, робячы аб'езд ваяводзтва разам з „дэлегатам Польскага Ураду", сьцьвярдзіў надзвычайна „serdeczny stosunek" крэсавай, паліцыі да... польскага насяленьня „Крэсаў", а з другога боку, газэта „Wyzwolenie Ludu" надрукавала такі „яскравы" артыкул пра крэсавую паліцыю і яе „stosunek" да сялянскага беларускага насяленьня (сканфіскаваны паліцыяй, але перадрукаваны, як інтэрпэляцыя!), што, запраўды, пытаньне, дзеля чыей „бясьпечнасьці" п. Рачкевіч павялічвае лічбу п. п. начальнікаў раёнаў, ня можа выдацца зусім лішнім.

**Абарона чыгункавых лініяў і цягнікоў.** Ужо апрацаваны і зацьверджаны плян спэцыяльнай абароны крэсавых чугунак. Апрача тэлефоннай сеці і аховы мастоў, на вялікшых станцыях разьмешчаны спэцыяльныя вайсковыя атрады.

**Спайманыя бандыты.** „Dz. Wil." падае: У Ракаўскай гміне ў часе аблавы (на людзей?!) якую зрабіў паліцэйскі пастарунак у Мерновічах, злоўлены 2 бандыты, узброеныя кароткімі расейскімі карабінамі і 170 патронамі, 3 іншыя з тэй самай банды ўцяклі.

# Падробнасьці нападу на цягнік,

Ад сьведкаў нападу, ехаўшых гэтым цягніком, мы даведаліся гэткія падробнасьці:

Паміж ст. Лясной і Дамановам раптам пачуліся глухія стрэлы, і цягнік звольніў ход, і пасьля зусім спыніўся. Пачаўся абстрэл вагонаў з вінтовак і кулямётаў.

Пасьля нападаўшыя (на вока душ 30) кінуліся да багажнага і паштовага вагонаў. У апошнім, як кажуць, вязьлі значныя грошы. Абодва вагоны абрабаваны.

Другія ў тым-жа часі ўвайшлі ў вагоны I і II клясы, усіх пасажыраў выгналі на палатно і разьдзелі да гала. Трох афіцэраў, не хацеўшых разьдзявацца, крэпка пабілі ды паранілі.

Пасьля пайшлі ў III клясу. Ехаўшыя паліцыянты паскідалі тым-часам мундзіры і паўпіхалі ў клязэты. Пачалося адбіраньне ў пасажыраў грошы і цэнных рэчы. Адна кабета ехала ў добрай футры. Яе пачалі тузаць, каб зьнімала, кажучы: Вось як вы разьеліся за беларускія грошы, што такія футры паспраўлялі. Калі-ж тая адрэзала пабеларуску, то патрэбавалі паказаць пашпарт. Прачытаўшы, што яна беларуска і праваслаўная, пакінулі яе, нічога ня ўзяўшы. Таксама не зачапілі работнікаў-пільшчыкаў. У другіх забіралі нават апошнія 3 злоты.

Гаварылі між сабой пабеларуслу, крычучы і пагражаючы Польшчы і паляком, што „забралі Беларусь".

Абабраўшы ўсіх, узлажылі дабро на падводы і 19 з іх паехалі ў лес, а рэшта адвяла цягнік на 12 кілямэтраў назад, пакінуўшы на месцы голых пасажыраў I і II клясы. Пасьля зыйшлі з цягніка і яны сказаўшы машыністу ехаць памалу ізноў уперад і падабраць пакінутых пасажыраў.

Аднаго паліцыянта застрэлілі. У яго двое з нападаўшых забралі ўсе грошы; але пасьля прыбег трэці і, калі паліцыянт ня меў больш, што даць, стрэліў у яго і забіў на месцы.

# З жыцьця Горадні.

**Візытатар з міністэрства.** 18-га кастрычніка 1924 г. быў у Горадні начальнік аддзелу народных школ міністэрства асьветы, п. Рэйтэр. Пан Рэйтэр разам з інспэктарам Горадзенскага пав. аглядаў усе школы, таксама быў і ў беларускай пачаткавай школе, дзе слухаў лекцыі. Як відаць, вельмі добрае ўражаньне зрабіла на п. Рэйтэра пастаноўка беларускай школы.

Запраўды адзіная на Горадзеншчыну беларуская школа вельмі добра пастаўлена, дзякуючы энэргіі кіраўніка школы п. Федарука.

Увечары а 8 гадз. таго-ж дня быў абед у залі „Раяль" у чэсьць прыезда п. начальніка з міністэрства асьветы.

Былі запрошаны: уся вышэйшая ўлада Горадні, дырэктары і інспэктары гімназій таксама кіраўнікі ўсіх, пачатковых школ, у тым ліку і беларускай.

**Хоць раз памагло.** Беларуская пачаткавая школа патрабуе рамонту. Ня гледзячы на неаднакратныя просьбы кіраўніка школы ў магістраце аб рамонце, магістрат усё абяцаў, але-ж не рабіў. Дык вось у канцы верасьня 1924 г. зьявіўся ў школу пасол пан Лашкевіч (паляк) разам са школьным інспэктарам Горадзенскага павету. Пасол слухаў лекцыі, аглядаў клясы й заўважыў шмат патрэбаў школы. Пасьля гутаркі з кіраўніком школы, ён зьвярнуўся ў магістрат і зрабіў добрую натацыю аб недаглядзе беларускай школы ды заявіў: калі ня будзе ўсё зроблена, дык выступіць у Сойме аб адносінах магістрату да школы.

Як відаць, словы пасла зрабілі належнае ўражаньне на прэзыдэнта места Горадні, Стэмпнеўскага, і пачаўся рамонт.

Рамантуюць клясы, лаўкі і праводзяць электрыку. Хутка беларуская школа ўпарадкуецца, як трэба.

Хоць раз да памагло! **Н.**

# Карэспандэнцыі.

## „Крэсавыя Культуртрэгеры".

(З *Сьвянцяншчыны*).

У Школе Садоўніцтва ў Сьвянцянах ад пачатку гэнага году дзеюцца вельмі сумныя і заразам дзіўныя рэчы, акурат ад часу прыезду новага кіраўніка Пастаўкі, і няма ведама, калі гэта скончыцца, — наагул, парадку там ніякага. Як адзін з сумных абразкоў жыцьця школы, падаем вось гэта.

Пан Стараста павету, Забежоўскі, з сваім прыездам у Сьвянцяны зараз-жа пачаў замяняць урадоўцаў у павятовых установах сваімі прыяцелямі з розных старон. Не пашкадаваў і Сойміка. Калі чарга дайшла да школы, то на становішча вучыцеля ўпіхнуў сынка свайго прыяцеля, нейкага недавучку Віктара Радовіча. Панічок гэны, падаючы, як відаць, вялікія надзеі, пачаў вучыцельскую працу з таго, што ў мужчынскую школу патрэбаваў сабе, пад прэтэкстам дакамплектаваньня тэатральнай трупы ў школе, некалькі дзяўчынак з мяйсцовага соймікавага прытулку. У пачатку рэпэтыцый выявілася, што найбольш падатлівай і паслухнянай была нашаму панічу „яблычку" прыгожанькая дзяўчынка, — фаварытка кіраўнічыхі прытулку, малая М. Э., з каторай ён часценька запіраўся ў сваім пакоі і рэпэтаваў з ею сам-на сам. „Праца" тая адбывалася ня толькі пад вокам і бокам кіраўніка школы Пастаўкі, але і на вачох вучняў, бо ад іх мала скрываліся — відаць, дзеля ўзгадаваньня іх у духу прыкладнай „маральнасьці". Закруціўшы галаву малой сіротцы Марусі, неяк у палове жніўня Радовіч пацягнуў дзяўчынку ў блізкі ту-ж пры школе, парк і там стараўся яе згвалтаваць. На плач дзяўчынкі прыбег адзін з вучняў школы, які праходзіў міма, Э. Я., і спыніў агідную збродню. Азьвярэўшы „прафэсар", выхваціўшы рэвальвэр, відаць, хацеў забіць свайго вучня, і толькі прыпадак перашкодзіў, бо пачуліся галасы праходзіўшых міма людзей. Акрамя вучня былі яшчэ і другія, сьведкі, каторыя не пасьпелі толькі дабегчы да мейсца збродні. Калі сьведка-вучань „замэльдаваў", як свайму кіраўніку, гр. Пастаўцы аб здарэньні, дык той адказаў, што ня трэба быць надта цікавым і лезьці, куды ня просяць, а патаму ня дзівіцца што ..... яго за гэта і куляй хацелі патрактаваць!

Гэта дастатачна кваліфікуе гр. Пастаўку, як кіраўніка школы.

Памоцнік-жа старосты павету, нейкі гр. Монтвіл, справу гэту залічыў відаць, як кажуць людзі, да спраў „палітычных", бо дэлегаваў дзеля допросу дзяўчынкі і паніча (сьведкаў не карысна было дапрашываць!) агентаў з палітычнага аддзелу, замест справу скіраваць да судзьдзі сьледчага. Агенты тыя, а былі гэта даволі маладыя людзі, сам-на-сам больш дапрашывалі сіротку-дзяўчынку, бо, як кажуць, кіраўнічыха прытулку саромілася быць пры дапросе. Як справа далей пайшла, няма ведама, бо ўсё і заглохла. — Ці не „на ўможэне?".

Людзі чулі, што адным з сьведкаў была паслана да найвышэйшай улады школы — міністра асьветы телеграма з просьбай выслаць рэвізію ў школу, бо Радовіч яшчэ з 2 тыдні „вучыў" ў школе, дык быццам тую тэлеграму міністэрства адаслана да старосты Забежоўскага дзеля высьненьня.

Божа-ж Ты мой, і ведалі каму пасылаць! То-ж усім ведамы яго „вольныя" погляды, усім знаны яго „ўвясяліцельныя" паездкі ў Беразоўку з нялетнімі гімназістачкамі, — ведама, як ён пасылаў скарбовых коні дзеля паездак такіх-жа, другіх гімназістак, толькі цётка іх не дазволіла скарыстаць з прапазіцыі...

Ось, чэму так свабодна і „раскашуюцца" тыя яго прыяцелі „яблычкі", сеючы маральную гніль сярод сялян і нявінных дзетак-сірот у павеце. Дагэтуль і гр. Радовіч ходзіць на свабодзе.

Што робе Соймік, каторы ў мысль арт. 7 п. 2 Дэкрэту аб павятовых установах мусіць рупіцца аб „podnoszeniu poziomu obyczajowości i kultury społecznej".

Ці ня час прыпыніць наплыў гэтых старастаўскіх „культуртрэгераў"? Ці не даволі вызысківаць сялян? Цікава ці пану пракурору справа Радовіча вядома?

**Упыр.**

## Пружанскі праваслаўны „папа".

Па кананічным, а нават, здаецца і грамадзянскім законам, духоўныя асобы (ксяндзы ды папы) да прысягі ня прыводзяцца. Так, прынамся, было дагэтуль, але цяпер часы зьмяніліся. Ёсьць заступнік, ці мо' „нунціуш" нейкага няведамага дагэтуль праваслаўнага „папы", які мае сваю рэзыдэнцыю ў Пружанах у палацу кн. Арбэльяні. Імя яму — стараста Ноэль. Ен прыводзіць праваслаўных сьвяшченьнікаў да прысягі на вернасьць яму і тых, хто з ім. Адбываецца гэты рытуал надта цікава: ахвяра заклікаецца ў „ватыкан" афіцыяльнай паперай за № 2855/I, як гэта здарылася з Рэвяціцкім сьвяшчэньнікам Лявонам Данілевічам. Заклікаецца прыняць прысягу ды падпісаць дэклярацыю аб аўтокефаліі: „праваслаўна-ноэльскай" царквы ў Польшчы, а за гэта, у знак яго „папскае" ласкі, ахвяра атрымоўвае „довад" ды „абыватэльства".

Што-ж, і гэта міне,—бачылі горшае; але навошта толькі пужаць бедных і так запужаных вясковых папоў?

Як увайшоў айцец Лявон да „папы" — старасты, дык амаль не самлеў: тут ужо было сабрана ўсё начальства з „папай" Ноэлем на чале і ягонымі „кардыналамі": Канашэўскім ды Зінаўцом. Усе, пры ўваходзе беднага Лявона, ускочылі з крэслаў, ды ня селі, покі ён ня сеў. Слухаючы прамову „папы", а. Лявон страху ўстаў з крэсла, але зараз-жа і ўвесь сінэдрыон схапіўся і ня сеў, пакуль ён ня сеў. Пацямнела а. Лявону ў вачох: нічога ня разумеў і ня чуў. Рытуал скончаны, далі падпісаць „дэклярацыю"; а. Лявон падпісаў. А „довад"? Довуду ўсё-ж яшчэ не далі, але абяцалі, бо ён — той, на каго першага зышла ласка „папы".

Выскачыў а. Лявон ад старасты, пашоў да калегаў сваіх, расказаў ім, але благачыннаму сказаць баяўся. Чакае, што будзе далей, як Уладыка Аляксандар? Думаем, што пахваліць свайго першага папа з абыватэльствам у Пружанскім павеце. З абыватэльствам, хоць і без багаслоўскае адукацыі, ну, але гэта для „папы" Ноэля і ўладыкі Аляксандра ня трэба.

**Пружанец.**

## Шукай праўды дзе хочаш!

(*З Гарадзенскага пав.*).

З усіх абяцавак беларускі народ дастаў адну: гэта — асадніцтва. Есьць і ў нас асаднік Сабалеўскі Антон, каторы ў 1922 г. дастаў „działku" ў Алекшыцкім маёнтку і раскашуецца, як добры, вытвараючы розныя штукі.

У 1914 г. сяляне в. Алекшыцы купілі 6 дзесяцін зямлі дзеля пасьвішча. Праўда, купчай не зрабілі, але зямлёй карыстаюцца ад 1914 г.

Гэта зямля падабалася Сабалеўскаму так-жа на пасьвішча, ён разумеецца, пасець сваіх кароў. Сяляне-ўласьнікі гэтае зямлі падавалі скаргу да зямельнага камісара, дык камісар абяцаўся ўзамен даць царкоўнай зямлі. Прайшоў год, другі; абяцанка засталася абяцанкай, а Сабалеўскі карыстае чужой зямлёй дарма.

А вось і другі факт.

У 1923 годзе коні асадніка Сабалеўскага патравілі паўтара марга аўса селян. в. Алекшыц, Мануліку Рыгору. Коні Манулік забраў у хлеў, патрабуючы заплату за шкоду, але Сабалеўскі заявіў: „Niemasz prawa aresztowywać koni — podawaj do sądu!" У прысутнасьці панятых і солтыса саставілі пратакол, і справа пайшла ў суд. Усе сьведкі паказалі, што коні Сабалеўскага зрабілі шкоду і нат' сам Сабалеўскі прызнаўся, што коні яго; але судзьдзя, хочучы апраўдаць прыяцеля, пачаў зьбіваць сьведку — маладога хлопца пытаючы: „Jakie byli konie, jakie mieli odznaki; gwiazdki, chrapki? і г. д. Ведама, што хлапец ня мог ведаць падробных прыметаў коні, і судзьдзя пастанавіў: апраўдаць. Акружны суд у Горадні „wyrók zatwierdził", і справе капут. Цяпер шукай праўды дзе хочаш!

„Наш" судзьдзя пан Боркоўскі, чалавек вельмі добры, толькі не для нас, сялян, а для „паноў„.

Калі да яго заходзіць абшарнік ці асаднік, дык судзьдзя зара крычыць „Kostuś! (сторож) podaj tu krzesło", а калі селянін ня здойме ў калідоры шапкі, ці на парозе надзене, дык pan sędzia кліча: „Wróć, płać sztraf, tu tobie nie bolszewicki trybunał!".

**Х.**

## Забойца на волі!

(*З Баранавецкага пав.*).

Бел. Пасольскі Клюб атрымаў гэную вестку з Баранавіцкага пав., якая наказуе на поўную бяскарнасьць бандытаў, паскольку пацярпеўшымі зьяўляюцца сяляне.

2 кастрычніка ў 7 гадз. раніцы на падворку свайго хутара Селішча, ля вёскі Валохва, Ястрабінскае гміны, Баранавіцкага пав., забіты гаспадар Аляксандар Карповіч. Забойца яго—лясьнік казённага лесу, Іван Каласоўскі, з в. Млынок.

Каласоўскі разам з другім лясьніком, Іванам Аскольдовічам, прыйшлі на хутар шукаць крадзенага лесу. Калі Карповіч зьвярнуў ім увагу на тое, што вобыск трэба рабіць з солтысам і паліцыяй, дык лясьнікі пачалі на яго крычаць, кажучы: „маўчы, а то застрэлім!"—а пасьля Каласоўскі, адыйшоўшы колькі крокаў, стрэліў і забіў на сьмерць ні ў чым нявіннага чалавека.

Судовая ўлада зрабіла дазнаньне на месцы, але забойцу і яго таварыша пакінула на волі, — што робіць зусім натуральна вельмі цяжкае ўражаньне на сялянства.



Рэдактар-Выдавец **Антон Войцік.**

Друкарня **Н. Левін і Сын**, Вільня, Нямецкая 22.